# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 16 (1155) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 16 КРАСАВІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.


ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

# У БЕЛЫЯ РАМОНКІ ЦІ Ў БЛАКІТНЫЯ ВАСІЛЁЧКІ?

У бягучым годзе з папулярнага не толькі на Беласточчыне камбіната **Фасты** выйдзе каля 72 тысяч 500 кіламетраў розных тканін. Калі б агарнуць усёй гэтай колькасцю нашу зямную кулю пасярэдзіне, гэта значыць, па экватары, то матэрыялу хапіла б на „паясок" шырынёй сама меней у два метры. І тады лозунг, што знаходзіцца каля ўваходу ў камбінат, — „Фасты нас здобяць і апранаюць" ужо мог бы датычыць не толькі нас, людзей. Бо мы здаўна знаходзімся ў палоне гэтага прадпрыемства: раніцай устаем мы з ложка ці тапчана, на якіх прастыні ды навалачкі — фастаўскія, апранаем кашулю ці сукенку з матэрыялаў — фастаўскіх, адхіляем штору на акне — фастаўскую, садзімся снедаць за стол з абрусам і сурветкамі — фастаўскімі.

Пра гэтую ўсюдыісную колькасць моцных і носкіх матэрыялаў клапоціцца ў Фастах каля шасці тысяч рабочых, майстроў, інжынераў. Пра тое ж, ці гэтыя мільёны метраў маюць быць жавыя ці зялёныя, у палоску ці ў клетачку, з багатай каймою ці з беражком без узору — пра ўсё клапоціцца маленечкае аддзяленне гэтак званай **узорнай вытворчасці**, у якім працуюць чатыры праекціроўшчыкі-мастакі, а дакладней — мастачкі, пяць тэхнолагаў і дванаццаць рабочых на пробнай вытворчасці.

— Мы абавязаны апранаць людзей і салідна і модна, — падкрэслівае кіраўнік гэтага аддзялення інжынер **Крыстына Юрак**. — Але ў вялікапрамысловай вытворчасці, вядома, ад мастацкага праекта да вытворчага эфекта шлях не такі ўжо і кароткі.

Аказваецца, што на першы погляд такая дробязь, ці на матэрыяле мае быць прадстаўлена кветка белага рамонку ці блакітнага васілёчка, з'яўляецца праблемай першай важнасці. Бо а ну ж, скажам, рамонкі не спадабаюцца пакупніцам, і дзесяткі тысяч звалькаў з сотнямі тысяч метраў гэтай тканіны будзе залежвацца на складах.

Першы імпульс паступае з Цэнтральнага бюро прамысловага ўзорніцтва, якое інфармуе камбінат пра навейшыя напрамкі ў сусветнай модзе, іх тэндэнцыях развіцця, дасылае ўзоры самых модных замежных і айчынных тканін. Пазнаёміўшыся з гэтым, фастаўскія мастачкі „выношваюць" у сваім уяўленні розныя праекты, а затым выкладаюць іх у поўнай палітры колераў пэндзлікамі на аркушах брыстолю-ватману. Пасля праекты вандруюць на ацэнку спецыяльнага цэнтральнага калектыву экспертаў у Лодзі. Калі іх там адобраць, яны вяртаюцца ў Фасты і тут іх „распрацоўваюць" па костачках рысаўнікі, тэхнолагі, майстры, рабочыя і выпускаюць па некалькі метраў тканіны ў розных адценнях кожнага ўзору. Як яны гатовы, тады з гэтых тканін нарыхтоўваюцца пробныя калекцыі і зноў высылаюць у Лодзь для ацэнкі іншаму ўжо калектыву спецыялістаў, які ацэньвае тканіны...



*— Вось гэтая скромненькая каляровая „клетачка" аказалася нашым вечным, нестарэючым узорам, — заўважае Крыстына Юрак.*

(Працяг на стар. 4)

Новыя вершы

## Бацькаўшчына

*Бацькаўшчына —*
*Гэта не бацькавы спадкі.*
*Як вымеру ўсё, што табою даецца?*
*Ці зразумеюць нашчадкі,*
*Якім я вялікім быў спадкаемцам?*

*Бацькава шапка, пуга, папруга —*
*Вы змалку мяне не вучылі на пана.*
*Вучылі —*
*Як трэба хадзіць за плугам.*
*Каб коска была, як агонь, адкляпана.*

*Мы ехалі з рынку...*
*З-пад лапін кашлатых*
*Хіснуўся хлапчына — вазку напярэймы!*
*Яго даганялі*
*Допыты, краты.*
*За ім ганчакамі яхалі стрэлы.*

*Гэй, конік, ратуй чалавека!*
*Здзічэла*
*Панёс ён, панёс...*
*З бяды то ён вывез!*
*Ды колам гарачым вазок —*
*На карчэўе!*
*Мяне, нібы пёрка,*
*З палукашка вытрас...*

*Ад бацькі мне ў спадчыну —*
*Ўцехі, напасці.*
*Гоман пяшчотны дубровы і мовы.*
*Не ўсяму прапасці —*
*Чаму з воза ўпасці.*
*Падняла мяне Бацькаўшчына*
*На шляху суровым.*

*Даруй мне, бацька...*
*Пракосам, загонам*
*Пайшоў не тваім...*
*І ўсё ж — тваім я!*
*У мяне — твая думка, душа...*
*І гонар!*
*І ўсё што ахрышчана*
*Тваім імем.*

**Мікола Арочка**



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78

*Дуэт з Орлі — Мікалай Лопух і Яўген Бала. На фінальным аглядзе II месца ў катэгорыі фальклорнай песні.*

*Фота М. Шаховіча.*



З прэпарцёрскіх запісак

# АВЕЧЫМ СЛЕДАМ

Начальнік Гарадоцкай гміны Аляксандр Бура найперш пачаставаў мяне весткай:

— Ведаеце, — сказаў ён, — прадукцыйная спулдзельня ў Лужанах завяршыла першы этап пабудовы аграмаднай авечай фермы ў Баброўніках.

Справа важная, асабліва ў святле пастаноў XI пленума Цэнтральнага Камітэта партыі.

Гарадоцкая гміна, асабліва ў прыгранічнай зоне, дзе пералескі чаргуюцца з узгоркамі, а пясочная зямля не абяцае высокіх ураджаяў, мае спрыяльныя ўмовы для развіцця гадоўлі авечак, гадоўлі патрэбнай, высокарэнтабельнай, але і капрызнай.

— Будзе гэта, — з асаблівым гонарам адзначыў начальнік, — самая вялікая авечая ферма ў Беластоцкім ваяводстве і адна з нямногіх у краіне. Ужо цяпер у чатырох прасторных будынках гадуюць у Баброўніках звыш 3 тысяч авечак, а тры наступныя аўчарні рыхтуе для гэтай жа спулдзельні Беластоцкае прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва. Новыя будынкі будуць заселены ягнятамі яшчэ ў гэтым годзе.

— Як удаецца лужанаўскім спулдзельцам гадоўля авечак у такіх разгорнутых маштабах? — пацікавіўся я, бо якраз прыпомніў сабе выступленне аднаго з удзельнікаў нарады, якая не так даўно адбылася ў Ваяводскім камітэце партыі. Гаварыў ён пра тое, што ў велізарных аўчарнях у час марозаў цяжка ўтрымаць адпаведна высокую тэмпературу.

— Нашы праектанты забылі, што жывем мы ў паўночна-ўсходнім раёне краіны, дзе зімы не такія, як пад Вроцлавам.

Начальнік Бура неяк скрывіўся:

— Ну, ведаеце... калі былі гэтыя марозы... але навошта вам гэта? Будаўнікі яшчэ пагневаюцца...

*

На наступны дзень давялося мне сустрэць намесніка старшыні Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых спулдзельняў прадукцыйных, магістра інжынера **Здзіслава Лінскага.** Абставіны былі напалавіну прыватныя, дык звярнуўся я да яго нібы жартам:

— Кажуць, што вашы спулдзельцы ў Баброўніках дохлымі ягнятамі сабак кормяць. Праўда гэта?

Старшыня проста замарозіў мяне сваім позіркам:

— За такую „праўду" або б'юць у морду, або ў суд падаюць.

— А не лепш справу высвятліць? — запрапанаваў я.

— Добра. — Згадзіўся ён.

Праз два дні завёз мяне ў Баброўнікі. Не даязджаючы да вёскі, з левага боку ад шашы, сярод пясчаных узгоркаў убачыў я жывёлагадоўчы пасёлак: два шматпавярховыя жылыя корпусы на 16 памяшканняў кожны і 7 аграмадных аўчарняў, якія выстраіліся ў шарэнгу, як салдаты на пераклічцы. За імі яшчэ нейкія іншыя будынкі рознага гаспадарчага характару.

Здалёк, з першага позірку ўсё гэта выклікае сапраўды вялікае ўражанне.

На будове паявілася спулдзельчае кіраўніцтва, а з імі адзін з баброўніцкіх

(Працяг на стар. 4)

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ДА БРЭСТА — БЕЗ ПРЫПЫНКАЎ

У ходзе рэканструкцыі аўтамабільнай дарогі Брэст—Масква, па сутнасці, нараджаецца новая аўтастрада высокага класа.

На буйнейшую ў заходніх раёнах краіны аўтатрасу выйшла самая сучасная дарожна-будаўнічая тэхніка. Комплексы машын, стварыўшы паслядоўны тэхналагічны канвеер, пакідаюць за сабой роўнае палатно дарогі, праездная частка якой у тры разы вышэйшая за цяперашнюю. Скарасны чатырохрадны рух забяспечваецца шматлікімі другараднымі дарогамі на розных узроўнях. Абочыны з цвёрдым пакрыццём, газон, які падзяляе трасу на дзве паласы, — усё гэта гарантуе высокую бяспеку руху. Двухбаковая сувязь, якой намечана аснасціць трасу, забяспечыць аўтамабілістам пры неабходнасці хуткі выклік тэхнічнай або іншай дапамогі.

### З КАРЦІННАЙ ГАЛЕРЭЯЙ

Новы сельскі Дом культуры з глядзельнай залай на 300 месц і карціннай галерэяй будуецца на цэнтральнай сядзібе калгаса „Зара камунізму" Барысаўскага раёна.

У будучай карціннай галерэі, акрамя рэпрадукцый рускіх і савецкіх жывапісцаў, будуць выстаўлены таксама копіі шэдэўраў сусветнага мастацтва. Гэта работы мастакоў эпохі Адраджэння, сярэдніх стагоддзяў і больш позняга перыяду.

### НОВЫ „АБУТАК" ДЛЯ ТРАКТАРА

Трактары МТЗ-80 і МТЗ-82 атрымаюць больш трывалы „абутак". Яго пачалі выпускаць у Бабруйску. Гарантыйны прабег новай радыяльнай пакрышкі павялічаны з 20 да 23 тысяч кіламетраў, устойлівасць да нагрузак павышана на 20 працэнтаў.

Тэхналогію пакрышкі з улікам павелічэння рабочых скарасцей беларускага трактара і нагрузак на шыну распрацавалі спецыялісты Днепрапятроўскага філіяла Навукова-даследчага інстытута шыннай прамысловасці. На зборцы яе бабруйскія шыннікі выкарысталі шэраг новаўвядзенняў.

### СТАЛІЧНАЕ ШАМПАНСКАЕ

Пяць мільёнаў бутэлек шампанскіх він будзе штогод выпускаць завод, які ўступіў у строй у Мінску. Ён аснашчаны навейшым абсталяваннем — шматкамернымі ёмкасцямі, якія забяспечваюць бесперапынны працэс вытворчасці.

### ЧЫСТЫЯ ВОДЫ НЁМАНА

Пачала працаваць другая чарга комплексу гарадскіх ачышчальных збудаванняў у Гродна. На правым беразе Нёмана ўзведзена буйная паветрадуўная станцыя, створаны сажалкі для біялагічнай ачысткі, другасныя адстойнікі. Бактэрыі ачышчаюць ваду ад розных прымесей. Абагачаная кіслародам, яна вяртаецца ў раку.

Да сістэмы, якая разлічана на штосутачны пропуск 82 тысяч кубаметраў сцёку, падключаны ўсе буйныя прамысловыя прадпрыемствы і жылыя раёны абласнога цэнтра.

### *У ГЭТЫМ ТЫДНІ*

**490 гадоў назад**
21 IV 1488 нар. Ульрых фон Гутэн, нямецкі гуманіст і палітычны дзеяч, адзін з аўтараў сатыры „Пісьмы цёмных людзей" супраць папства і каталіцкай царквы.

**390 гадоў назад**
20 IV 1588 пам. Паала Веранеза, італьянскі жывапісец позняга Адраджэння, прадстаўнік венецыянскай школы.

**190 гадоў назад**
16 IV 1788 пам. Жорж Бюфон, французскі натураліст-матэрыяліст. Аўтар 36 тамоў „Натуральнай гісторыі".

**150 гадоў назад**
16 IV 1828 пам. Францыска Гоя, іспанскі жывапісец. Творчасць яго — вяршыня іспанскай нацыянальнай культуры на рубяжы 18 і 19 ст.

**110 гадоў назад**
20 IV 1868 нар. Адольф Варскі, дзеяч польскага рабочага руху, адзін са стваральнікаў Камуністычнай рабочай партыі Польшчы.

**75 гадоў назад**
18 IV 1903 нар. Платон Галавач, беларускі савецкі пісьменнік.

**35 гадоў назад**
19 IV 1943 у варшаўскім гета выбухнула паўстанне.

# РЫГОР ШЫРМА

Беларуская культура панесла вялікую страту — 23 сакавіка 1978 года пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр Рыгор Шырма, народны артыст СССР, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР.

У некралогу, падпісаным кіраўнікамі партыі і ўрада рэспублікі, пісьменнікамі і кампазітарамі Беларусі і іншых Савецкіх рэспублік, між іншым гаворыцца: „Не стала вернага сына Камуністычнай партыі і савецкага народа, які аддаў усе свае сілы нашай вялікай Радзіме. Ён вядомы як глыбокі і страсны збіральнік і даследчык музычна-паэтычнай народнай творчасці, перакананы прапагандыст беларускай народнай песні, пісьменнік-публіцыст, які ўзнімаў у сваіх выступленнях важнейшыя праблемы развіцця культуры, музычнай творчасці, выдатны выканаўца — інтэрпрэтатар сусветнай класікі.

Нарадзіўся Рыгор Раманавіч Шырма 20 студзеня 1892 года ў вёсцы Шакуны Пружанскага раёна ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння вучобы працаваў настаўнікам, кіраваў самадзейнымі харавымі калектывамі. Прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху ў Заходняй Беларусі. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Р.Р. Шырма стварыў Беларускі ансамбль песні і танца, рэарганізаваны пазней у Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу БССР. Пад кіраўніцтвам Р.Р. Шырмы гэты мастацкі калектыў стаў адным з лепшых у краіне. Тонкі музычны густ, багаты вопыт і дырыжорскае майстэрства паставілі Р.Р. Шырму ў рад выдатных савецкіх выканаўцаў".



*

25 сакавіка адбылося пахаванне Рыгора Шырмы. У Дом літаратара, дзе была ўстаноўлена труна з целам нябожчыка з раніцы ішла бясконцая людская рака, каб у жалобным маўчанні схіліць галаву перад яго светлай памяццю. У ганаровай варце стаялі кіраўнікі партыі і ўрада рэспублікі, на жалобным мітынгу з прамовамі выступілі першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Міцкевіч, намеснік старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР Ю. Семяняка, слесар Мінскага аўтамабільнага завода М. Жолудзь, старшыня праўлення Саюза кампазітараў Літоўскай ССР В. Лаўрушас, сакратар партыйнай арганізацыі калгаса „Ленінскі шлях" Пружанскага раёна Г. Петруковіч, міністр культуры БССР Ю. Міхневіч. Ля магілы слова развітання сказаў М. Танк.



**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"**

**Людоўцы ♦ І першы, і ўдалы!.. ♦ Біяграфія аднаго зайца ♦ Радзімка і заідзі ♦ Любуючыся аленямі і ўцякаючы ад зуброў ♦ Найлепшыя ў Нараўскай гміне ♦ Сустрэчныя партрэты ♦ Весткі з Крынак, Харошчы, Чэхаў Арлянскіх, Цялушак, Заблудава, Белавежы, Палічнай, Чаромхі, Нараўкі, Дубіч Царкоўных, Бельска, Збуча, Нарвы, Нурца ♦ Як Гаўрыла хацеў павесіцца (Дзядзька Квас) ♦ Песня „Spróbuj sam".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 15 IV** — 6.00 TTR. Upr. roślin. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla kl. VII Nauka o czł. 10.00 Czerwone, żółte, ziel. 11.05 Dla kl. VIII Geogr. 12.55 Upr. roślin. 13.25 Hod. zwierz. 14.10 Red. szk. zap. 14.20 Pr. dnia. 14.25 Dziennik. 14.35 Obiektyw. 14.55 Radzimy rolnikom. 15.05 Pr. dla dzieci. 15.35 Magazyn lotniczy. 16.05 Latarnia czarnoksięska. 16.35 Dziedziczka — melodr. ameryk. 18.30 Gdyby wszyscy ludzie. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy z Brigitte Bardot: Dziewczyna z okładki — kom. fr. 22.10 P. nożna. Węgry—CSRS. 23.00 Dziennik. 23.15 Wszyscy uwierzą — ang. dramat sens.

**Niedziela 16 IV** — 6.40 TTR. Upr. roślin. 7.10 Hod. zwierz. 7.40 RTSS. Nasze spotk. 8.00 Alarm przeciwpoż. 8.10 Now. w domu i zag. 8.35 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 U zarania dziejów — wł. film dok. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.45 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 17 IV** — 12.45 RTSS. Fiz. 13.25 Geogr. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Spiewa Zisis Mocios. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.15 Klub kibica. 17.40 Dom i My. 17.55 Ruiny strzelają — cz. III radz. dramat woj. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Tel. na świecie. G. B. Shaw: Cezar i Kleopatra. 21.55 Camerata. 22.35 Współczesne życiorysy. 22.45 Dziennik.

**Wtorek 18 IV** — 6.00 RTSS. Fiz. 6.30 Geogr. 9.00 Dla kl. I—III Mat. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.30 Noce i dnie — odc. VIII filmu ser. 12.45 RTSS. Chem. 13.25 Biol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.05 Nie tylko dla kobiet. 17.35 Teleturniej. 18.15 Człowiek i przyroda — dok. film hiszp. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — odc. XIV filmu ser. ang. 21.30 Przed Opolem. 22.00 Progi i bariery. 22.55 Przed Opolem. 23.00 Dziennik.

**Środa 19 IV** — 6.00 RTSS. Chem. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. VI Fiz. 10.00 Dla kl. VII Fiz. 10.30 Kurier z Warny — bułg. dramat sens. 12.00 Dla kl. VIII. Chem. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 Mat. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Entliczek-słowniczek. 17.00 Spoza gór i rzek. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Między nami jaskiniowcami. 18.10 I Liga Piłki Nożnej. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kartka z pamiętnika — czech. dramat psych. 22.05 Dziennik. 22.20 W minutę po premierze.

**Czwartek 20 IV** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 Ma 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.05 Dla kl. VII J. pol. 12.25 Decyzje piętnastol. 12.55 Dla kl. IV lic. J. pol. 13.40 RTSS. Mat. 14.10 Fiz. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Oto foto. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Ekran z Bratkiem. 17.55 Poligon. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Komisarz Maigret — fr. dramat sens. 22.10 Pegaz. 22.55 Dziennik. 23.10 W minutę po premierze.

**Piątek 21 IV** — 6.00 RTSS. Mat. 6.30 Fiz. 9.00 Dla kl. V. Geogr. 10.00 Dla kl. VI. Geogr. 11.05 Dla najmł. Wizyta u mistrza. 11.20 Kartka z pamiętnika — czech. dramat obycz. 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — nauki polit. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Piątek z Pankracym. 17.10 Kryptonim Stella — odc. II bułg. ser. sens. 18.30 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Film Tel. na świecie. Edward Munck — cz. I filmu nor. 22.20 Wielka Ork. Symf. PRiTV w Krakowie. 23.05 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 14 IV** — 8.25—12.15 Cichy Don — film fab. I i II części. 18.00 III część Cichego Don 20.45 Hokej. Szwecja—ZSRR.

**Sobota 15 IV** — 9.55 Cichy Don — film fab. III część. 16.00 Nie do wiary. 18.20 Spektakl. 21.40 Balet.

**Niedziela 16 IV** — 10.00 Film anim. 13.00 Spektakl. 15.15 Panorama międzynar. 17.00 P. nożna. Lokomotywa-Spartak. 19.00 Klub film. 20.30 Wieczór handlowców.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Jak car Piotr Ibrahima swatał — radz. 18—19. Drzwi w drzwi — fr. 20—21. Dziewięć miesięcy — węg. 22—23.

**Bielsk Podl.** Rok święty — fr. 18—19. Kobra — jap. 20—21. Nieme kino — USA 22—23.

**Czeremcha** Ptaki ptakom — pol. 18—19. Ostatnie zadanie — USA 22—23.

**Czyże** Piraci na Pacyfiku — rum. Skarb na wyspie — rum. 19—23.

**Dubicze Cerk.** Opowieść o komuniście — radz. Ptaki ptakom — pol. 19—23.

**Gródek** Jak car Piotr Ibrahima swatał — radz. 22—23.

**Hajnówka** Wezwij mnie w świetlistą dal — radz. 18—19. Szli żołnierze — radz. 20—21. Wojenny prezent — radz. 22—23.

**Michałowo** Kariera na zlecenie — fr. 18—19. Alicja już tu nie mieszka — USA 20—21. Gdzie woda czysta i trawa zielona — pol. 22—23.

**Mielnik** Ryzykant — USA 19. Królowa pszczół — pol. 22—23.

**Milejczyce** Nie unikniesz przeznaczenia — fr. 19. Mr Majestyk — USA 22—23.

**Narew** Magiczny kamień — NRD. Samotnik — fr. 19—23.

**Narewka** Sam na sam — pol. Ostatni bal w Rożnowie — czes. 19—23.

**Nurzec** Dowódca armii — radz. 18—19. Dzielnica willowa — buł. 20—21. Sprawa Gorgonowej — pol. 22—23.

**Orla** Dziewczynka z Hanoi — wiet. Nie ma dymu bez ognia — fr. 19—23.

**Rajsk** Wagon sypialny — jug. Anna siostra Jany — czes. 19—23.

B.Z.Graf. Zam. nr 846, 7.600 egz. N-4

**ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК**

## Зборнік вершаў М. Шаховіча

Нядаўна выдавецтва Галоўнага праўлення БГКТ выпусціла зборнічак вершаў Міхася Шаховіча „Прамінанне“. Гэта першая індывідуальная кніжка маладога нашага літаратара, першы яго важны крок у творчых здзяйсненнях.

Нарадзіўся М. Шаховіч у 1953 г. у вёсцы Сакі каля Бельска. Закончыўшы Бельскі беларускі ліцэй, улюбёны ў роднае слова, паступіў ён вучыцца на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Яго першыя літаратурныя спробы паявіліся на старонках „Нівы“ ў 1974 г., калі ён яшчэ быў студэнтам. Ужо ў той час ён удзельнічаў у дзейнасці варшаўскага гуртка БГКТ, асабліва ж актыўна ўключыўся ў грамадскую і культурную працу нашай арганізацыі пасля таго, як у 1975 г. пачаў ён працаваць журналістам у „Ніве“. Ведаюць яго нашы чытачы як заангажаванага, настойлівага і плённага публіцыста.

У зборнічак увайшлі лепшыя здабыткі маладога лірыка, першакрыніца якіх ляжыць там, дзе ён „спеўнай роднай мовы вучыўся ад бацькоў і дрэў“. Асноўным жа матывам гэтых свежых, з далікатнай тканню мастацкіх вобразаў, вершаў з'яўляецца роздум над таямніцамі існавання, сэнсам жыцця, сутнасцю прыгожага. Адметная іх рыса — гэта пранікнёнасць замілаваннем да ўсяго роднага, свойскага, тутэйшага. І як часцей за ўсё бывае з маладымі паэтамі, усе гэтыя творы авеяны нейкім невкрэсленым сумам па адыходзячым. Можа таму зборнік і займеў назву „Прамінанне“. Але гэты сум — сум стваральны, натхняючы жыццёвым аптымізмам.

Зборнічак аздобіў арыгінальнымі, з глыбокім зместам, адпаведным вымове вершаў, ілюстрацыямі наш рэдакцыйны мастак Стэфан Рыбі. Адрэдагаваў кніжачку і ўзбагаціў яе цёплым сяброўскім уступным артыкулам Мікалай Тармасюк.

Зборнік М. Шаховіча „Прамінанне“ ў цане 10 злотых можна набыць у Галоўным праўленні БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11. **(іс)**

**БЕЛАРУСІЯНА**

„Гісторыя Беларусі — гэта рака, вялікая плынь, то спакойная, то бурлівая“, — заўважае Павел Касовіч у абшырным артыкуле **„Вяртанне на Беларусь“**, што быў змешчаны ў кракаўскім тыднёвіку „Жыце літэрацке“ ад 26 сакавіка бягучага года. Аўтар — цяпер ён жыхар Зялёнай Гуры — з чуласцю піша аб уражаннях з нядаўняй вандроўкі ў краіну свайго дзяцінства і юнацтва — мястэчка Ракаў на Міншчыне. Прыгадвае ён пры гэтым мноства вельмі цікавых фактаў з больш і менш адлеглага мінулага беларускага і польскага народаў, між іншым, уваскрашае постаці беларускага пісьменніка В. Дуніна-Марцінкевіча і яго сябра польскага кампазітара С. Манюшкі, польскага празаіка Г. Друцкага-Любецкага і беларускага песняра Я. Купалы, польскага рэвалюцыянера Ю. Мархлеўскага і беларускай нацыянальнай гераіні В. Харужай, расказвае аб трагічных лёсах сям'і Дзяржынскіх, а таксама ўспамінае дзесяткі іншых выдатных постацей, звязаных з Ракавам і яго ваколіцамі, а якія пакінулі незацёрты след у гісторыі абодвух нашых народаў. А ўсё гэта прадстаўлена з глыбокім пачуццём любві да чароўнага краю над Нёманам і Ісламчу.

У тым жа нумары тыднёвіка польская публіцыстка Ева Аўсяны ў артыкуле **„Успаміны з Завосся“** па-майстэрску пераказала ўспаміны Аліны Канюшэўскай-Вальчаковай, якая ў міжваенны перыяд доўгі час працавала вясковай настаўніцай на радзіме Адама Міцкевіча — у мясцовасці Завоссе каля Навагрудка. Дакументальнай вартасці замалёўкі з жыцця і побыту тамашніх беларускіх сялян, малавядомыя краязнаўчыя факты з усяго надсвіцязянскага краю, вобразы цяжкіх умоваў працы настаўніцы, прыклады абыякавасці санацыйнага ўраду да патрэбаў родных мясцін вялікага польскага паэта — вось асноўныя праблемы гэтай публікацыі. Яна ўзбагачана унікальнымі здымкамі з прыватных збораў А. Канюшэўскай-Вальчаковай, якая цяпер жыве на польскіх Заходніх Землях.

Вельмі прыемныя гэта публікацыі.

**(іс)**

# КОЛЕРЫ БЕЛАВЕЖСКАЙ ЗІМОВАЙ ПАЛІТРЫ

19 сакавіка г.г. закончыўся XIII Белавежскі міжнародны мастацкі пленер. Быў ён даволі плённы. На выстаўцы, наладжанай у памяшканні Прыродазнаўчага музея БНП, было паказана звыш 100 прац 33 аўтараў.

Абзор прац варта пачаць ад цікавай кампазіцыі Антона Шыманюка, прадстаўляючай у сваёй сярэдняй частцы дзве вялікія савы, а вакол іх, па берагах, 12 меншых. Цікавая падборка колераў і адпаведнае нанясенне фарбы прыцягвае зрок кожнага. Цэлая кампазіцыя мае штосьці з іконы.

Незвычайна ўдалыя партрэты намаляваны Мечыславасам Астраўкусам з Літвы. Мастак увекавечыў на іх мастакоў А. Шыманюка, С. Худзіка і белавежскага вучонага Ч. Аколава.

Вялікім мастацкім узроўнем адзначаюцца чатыры працы Амірана Параксадзе з Тбілісі: „Партрэт архітэктара Арсакідзэ“, „Партрэт мастачкі Дануты Баляхоўскай“, „Нацюрморт“ і „Зіма ў Белавежы“. Добра таксама зарэкамендаваўся яго зямляк Шата Шанідзе са сваімі працамі „Лес у Белавежы“ і „Эдвард і Алекс у Белавежы“.

Многа зместу, арыгінальнай паэтыкі можна знайсці ў абстрактных кампазіцыях Аляксандра Панцялеева з СССР — мастака незвычайных здольнасцей.

Замяшанне выклікаюць абстрактныя кампазіцыі Кіры Аляксандру з Румыніі. Яго „касмічнай“ серыі не хапае сілы выяўлення, ды і сам сэнс карцін недзе згублены. Расчараваў і немец фон дэр Эрдэ. Паставіў ён на шакіраванне гледача прастатой, ды забыў, што ад карціны патрабуецца чагосьці больш. З яго прац на ўвагу заслугоўвае толькі пейзаж з могільнікам.



*Праца Амірана Параксадзе з Тбілісі „Партрэт мастачкі Дануты Баляхоўскай“.*

Прыемныя ўражанні, як заўжды, выклікаюць палотны Галены Задрэйка. Асабліва цікавы працы „Меланхолія“ і „Золак“. Поўны яны паэтыкі, задуменнасці, хаця не пераходзяць мяжы рэалізму.

Нешаблонныя таксама палотны Дануты Понтус. Нягледзячы на шэрыя прытушаныя колеры, валодаюць вялікай сілай выказвання. Кожнага гледача спыняць на пару хвілін даўжэй пейзажы з возчыкам, дамай, сабакай, будынкамі ці мостам і рыбакамі.

Мастацтва вялікага класа паказаў С. Сакалоўскі. Найбольш усім спадабалася праца „Белавежа“ — заснежаны пейзаж са старымі будоўлямі.

Увагі заслугоўваюць таксама чароўныя пейзажы Тэрэсы Навэльскай, Генрыка Асіцкага, Д. Г. Патвароўскай, Яніны Савіцкай, поўныя экспрэсіі, руху карціны з птахамі Ірэны Муселяк, абстрактная серыя „Дрэвы“ Рэнаты Нямірскай-Пісарэк.

**Пётр Байко**

Фота аўтара

**АЛІМПІЙЦЫ БЕЛЛІЦЭЯ**

## ЯЎГЕН РЫЖЫК

Геаграфіяй пачаў цікавіцца яшчэ ў пачатковай школе, якую канчаў у сваёй роднай вёсцы Кнарыды. Заўсёды цікавілі яго далёкія краіны, жыццё людзей. Думкамі безупынна прабываў у далёкіх гарадах, плаваў па марах, узнімаўся па гарах, тануў у гушчах трапікальных лясоў.

Многа дапамагаў у развіцці і паглыбленні яго ведаў дырэктар школы Пятро Рыжык. Нават тады, калі хлопец паступіў ужо ў ліцэй, пасылаў яму розныя кнігі, часопісы.

У ліцэй Яўген паступіў з думкай аб далейшай адукацыі. Зацікаўленняў сваіх не змяніў. Геаграфія далей з'яўляецца факелам яго зацікаўленняў. Не азначае гэта, што занядбоўвае другія прадметы. Але геаграфія цікавіць яго найбольш. І гэта добра, што мае ўжо сваю дарогу ў жыцці. Настаўніца гэтага прадмета Серафіма Кандрацюк адразу заўважыла яго здольнасці ў гэтым напрамку і пачала яму дапамагаць, ствараючы ўмовы для далейшага пашырэння ведаў. Кнігі, атласы, цікавыя расказы, супольныя дыскусіі.

Алімпіяда. Гэта ўжо другая яго алімпіяда па геаграфіі. Першы раз прымаў удзел у мінулым годзе, калі быў у трэцім класе. Дайшоў да цэнтральнай і атрымаў пасведчанне, якое дало магчымасць без экзаменаў паступіць на аддзяленне геаграфіі. Дарога была ўжо амаль адкрытая, яшчэ толькі матура, але Яўген не здаўся. Яшчэ раз прыступіў да алімпіяды па гэтаму прадмету. Мэта — папасці ў авангард, стаць адным з найлепшых на цэнтральнай алімпіядзе. На акруговых элімінацыях, у якіх бралі ўдзел прадстаўнікі з Беластоцкага, Ломжынскага, Сувальскага, Астралэнцкага ваяводстваў, заняў першае месца. Прайшоў у цэнтральныя.

Яўген Рыжык вучыцца зараз у IV а класе. Алімпіяда, як сам заяўляе, дала яму вельмі многа. Выбіраецца ў Варшаўскі універсітэт на геаграфію. Яго мінулагодні поспех заахвоціў іншых. У гэтым годзе на 47 асоб, прымаючых удзел у акруговых элімінацыях, чатыры працы былі з Бельскага белліцэя.

— Мае дасягненні — гэта перш за ўсё заслугі настаўніцы Серафімы Кандрацюк, якой я за гэта вельмі ўдзячны і шчыра дзякую, — гаворыць на заканчэнне Яўген Рыжык.

**М. Шаховіч**
**Фота аўтара**




*Яўген Рыжык з IV а са сваёй настаўніцай геаграфіі Серафімай Кандрацюк.*

**КЛУБ І БІБЛІЯТЭКА**

Неўзабаве ў Старым Ляўкове (гміна Нараўка) клуб прэсы і кніжкі „Рух“ і бібліятэка будуць па-суседску ў адным доме. Пакуль што праводзіцца тут капітальны рамонт. Пасля яго заканчэння ўсё будзе як новае. Будынак пакрыты каляровым этэрнітам і мае новую шалёўку.

**БУДУЦЬ ТРАТУАРЫ**

Вёска Новае Ляўкова ніколі дагэтуль не мела тратуараў. Але ўжо сёлета насясну майстры пачнуць іх пракладку паабапал брукаванай вуліцы.

Апрача таго будзе пашырана дарога за вёскай у напрамку Лукі. Ужо звезлі пясок. Пасля перабудовы дарога будзе мець не менш 9 метраў шырыні на цэлым 8-кіламетровым адрэзку.

**ХРОНІКА**

23 III — пасяджэнне камісіі культуры ГП БГКТ, абмеркаванне перш за ўсё святкавання 60-ай гадавіны БССР, беларускага літаратурнага руху ў Народнай Польшчы, конкурсаў народных капел і тэатральнага, а таксама арганізацыі народных фэстынаў.

28 III адбылася нарада працаўнікоў ГП БГКТ. Галоўная тэма нарады — падсумаванне працы раённых гурткоў у сакавіку і зацвярджэнне планаў дзейнасці гэтых жа гурткоў на месяц красавік. Нараду вёў старшыня ГП БГКТ М. Самоцік.

30 III — пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Вядучай была тэма святкавання 60-ай гадавіны БССР і прыняцце матэрыялаў на пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ — „Дваццаць год дзейнасці літаб'яднання „Белавежа“. Пленум адбудзецца 23 красавіка.

Спатканні інструктараў ГП БГКТ з актывам таварыства; у сакавіку адбыліся спатканні ў Літвінавічах, Палічнай, Чарэмсе-вёсцы — раён Мілейчыцы; у Ласінцы, Дубінах, Трывежы і Гайнаўцы — раён Гайнаўка; у Локніцы, Парцаве, Орлі, Бельску Падляшскім — у бельскім раёне; у Міхалове, Гарадку, Меляшках, Новай Волі — раён Беласток.

Сустрэчы. У беластоцкім клубе БГКТ 2 сакавіка адбылося спатканне з пенсіянерамі, 5 сакавіка з др. В. Юзвюком, а 19 — з журналістамі „Нівы“ Я. Целушэцкім і М. Шаховічам.

*(Анна Ляшкевіч)*

# Пра жанчын з Рафалоўкі

Гурток вясковых гаспадыняў (КГВ) у Рафалоўцы ў Заблудаўскай гміне налічвае 50 жанчын. Два гады таму назад узначаліла яго Альжбета Шымчук. Тады прайшоў кулінарны курс, на якім гаспадыні супольна вучыліся варыць рэгіянальныя стравы. Летам мінулага года яны арганізавалі ў будынку мясцовай школы вясковы дзяцінец для 20 дзяўчынак і хлопчыкаў.

На кулінарны курс рафалоўскія кабеты хадзілі яшчэ і нядаўна, у пачатку сакавіка гэтага года.

У мясцовым клубе „Рух", які вядзе Ванда Прус, заснаваўся 25-асабовы жаночы хор. Ён мае ў сваім рэпертуары старынныя мясцовыя песні. Рафалоўскія жанчыны выступалі з нагоды Дэкады культуры вёскі (2-12 III) у святліцы гарсэцярскага кааператыва „Взорцова" ў Беластоку і іх песні вельмі спадабаліся ўсім прысутным на ўрачыстай вечарыне.

Сёлета жанчыны таксама намераны арганізаваць вясковы дзяцінец. Малышам упершыню будзе аддадзена ў карыстанне адпаведна абсталяваная пляцоўка для гульняў.

Кабеты ахвотна прымаюць удзел у папулярным на вёсцы конкурсе на найпрыгажэйшы кветкавы гародчык. У мінулым годзе першае месца заняла ў ім Люцына Прус і ва ўзнагароду атрымала яна патэльню з тэфлонавай паверхняй.

Маюць яны для супольнага карыстання і дзеля вялікай выгады пазычальню з настольнай пасудай, сокавіроўкай, шаткаўніцай для капусты, дзвюма — меншай і большай — качалкамі, электрычным ражном.

Уся жаночая арганізацыя найахвотней збіраецца ў клубе „Рух", у якім ёсць рознае светліцовае абсталяванне, кожны дзень свежая прэса, цікавыя культурна-асветныя мерапрыемствы. Тут зараз адбываюцца заняткі ў рамках сельскагаспадарчага курсу, якія вядуць інструктары сельскагаспадарчай службы з Заблудава, вопытныя дакладчыкі таварыства ўсеагульных ведаў (ТВП) чытаюць лекцыі на цікавыя тэмы, дырэктар гміннага цэнтра культуры (ГОК) — Ружа Насароўская наладжвае выстаўкі народнага ткацтва (дываны-пасякі, дэкаратыўныя дарожкі, аздобныя пакрывалы). Найбольш бывае на іх вырабаў Феліцыі Люлевіч з Рафалоўкі і Марыі Карольчук з Фальваркаў Малых.

Варта дадаць, што КГВ мае сваю 75-аровую плантацыю мяты. У мінулым годзе ён прадаў беластоцкаму „Гербаполю" гэтай карыснай расліны на суму 16 тысяч злотых. За сабраныя такім шляхам грошы жанчыны паедуць на краязнаўчую экскурсію.

**Я. Целушэцкі**

## Кажуць, што...

*Тэлефон, які знаходзіцца ў чыгуначнай пачакальні ў Гайнаўцы, мае вельмі добрае і чулае сэрца. Хто толькі, укінуўшы манету, пазвоніць і пасля закончанай размовы павесіць трубку, кожнаму звяртае ўкінутую манету.*

*Дабрата дабратой, але варта праверыць механізм тэлефона.*

**П. Байко**

## ФАЛЬКЛОР

ЛУБОЎНАЯ




*Сядзіць голуб на бярозе, галубка на вішні.*
*Скажы, скажы, маё сэрцэ, што маеш на мыслі,*
*скажы, скажы, маё сэрцэ, што маеш на мыслі?*
*Як ні хочэш, маё сэрцэ, дружыною быці,*
*то дай жэ мне того зелля, каб цябе забыці,*
*то дай жэ мне того зелля, каб цябе забыці.*
*Расце ў мене тое зелле блізка перэлазу,*
*як дам табе напіціся — забудзеш адразу,*
*як дам табе напіціся — забудзеш адразу.*
*— Ой, піць буду, ой, піць буду ўдзень і ўночы —*
*тады я цябе забуду, як загаснуць вочы,*
*тады я цябе забуду, як загаснуць вочы.*

Ад некалькіразовай лаўрэаткі конкурсаў „Беларуская песня", народнай спявачкі **Софіі Цацэрка, 1935** года нараджэння, вёска Баброўнікі гм. Гарадок, запісаў 26 лютага 1978 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Гмінныя навіны

# Будзе больш мэблі

Кааператыў па вытворчасці мэблі ў Супраслі існуе амаль 30 гадоў. Ён з кожным годам разбудоўваецца і мадэрнізуецца. Цяпер прадпрыемства мае вялікія прасторныя залы, якія запаўняюць навейшыя машыны. Нядаўна былі закуплены самыя прадукцыйныя аклейнярка і палерка, якія выпускаюць заходнія краіны Еўропы. У лістападзе мінулага года быў перададзены ў карыстанне вялікі цэх для лакіравання мэблі. У бліжэйшыя гады будуць разбудаваны



*Фрагмент аднаго з прадукцыйных цэхаў кааператыва па вытворчасці мэблі ў Супраслі.*

зборачны цэх і пункт паслуг, а таксама мадэрнізаваны склад цвёрдай і стружкавай плітаў.

У спулдзельні працуе больш 200 чалавек. Вытворчасць ідзе тут паточна. У адной зале малююць, у другой наводзяць палітуру, у трэцяй ідзе зборка мэблі. Найбольш сталоў: звычайных і сталоўлаваў (між іншым да мэблевых камплектаў тыпу „Беласток"), паліцы для кніг, шафы. Усе гэтыя вырабы карыстаюцца вялікай папулярнасцю ва ўсёй краіне. Выпускаюць іх тут звыш пяцідзесяці мільёнаў злотых у год.

Дзякуючы разбудове прадпрыемства вартасць прадукцыі значна павялічыцца. Мэбля з Супраслі мае зараз, дзякуючы лепшым умовам працы і лепшаму абсталяванню тэхнікай, лепшую лакіроўку.

Дырэкцыя стварыла для рабочых добрыя ўмовы працы. У 1975 годзе былі перададзены ў карыстанне, пабудаваныя коштам двух мільёнаў злотых, сацыяльна-бытавыя памяшканні. У мінулым годзе рабочыя атрымалі буфет і сталовую на 80 месц. Ёсць таксама вельмі прыгожая святліца з арыгінальнымі ўпрыгожаннямі, зробленымі з дрэва, і карціны, выкананыя метадам інтарсіі.

**Я. Целушэцкі**



*Барбара Маркс каля сваіх праектаў узораў на пасцельную бялізну.*

зваецца, што яны маюць вялікую прамысловую вартасць, бо нярэдка па заказу гандлю камбінату даводзіцца ўзнаўляць выпуск тае ці іншай тканіны, якую ён выраблярў некалькі год таму назад. Калі захаваўся ўзор такой тканіны і дакументацыя да яе, узнаўленне прадукцыі адбываецца хутка і танным коштам. Але бываюць і „вечныя" ўзоры, якія не падлягаюць пераменнасці моды. Узяць хоць бы сукенкавы ўзор у каляровую „клетачку". Яго Фасты выпускаюць ужо каля дзесяці год, але спрос на яго не толькі не змяншаецца, але нават з кожным годам павялічваецца. Тое самае было з матэрыялам на шторы з беларускім узорам. Гэты ўзор падрыхтаваў мастак **Тадэуш Гайль** на аснове матываў беларускай народнай тканіны на Беласточчыне. Матэрыял выходзіў у пяці адценнях. Карыстаўся ён велізарнай папулярнасцю на Беласточчыне, ва ўсёй Польшчы і па-за яе межамі. Фасты выпускалі яе мільёны метраў.

Цяпер камбінат рыхтуецца да адзначэння свайго 25-годдзя, якое прыходзіцца ў месяцы кастрычніку. Слаўная гэта дата і для калектыву Фастаў і для ўсяе Беласточчыны.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XXIV

Да тыпова агульнаграмадскіх твораў Бядулі залічаем: „Хоць ты разарвіся", „Спякота", „Гусляр", „Заліў быдлячы лой валоўі твае грудзі", „Прыдзіце", „Ці хто забывае цябе, небарака?..", „Пан".

Амаль усе названыя творы датычаць сялянскага жыцця. Выключэнне — „Ці хто забывае цябе, небарака?..", у якім гаворыцца аб „бедным рабочым, скалечаным машынай". Большасць вершаў, прысвечаных сялянскаму побыту, утрымана ў ідэйным каларыце тагачаснага Купалы. Нараканне на нядолю, асуджэнне нястач, праклінанне сляпога лёсу — гэта галоўныя матывы грамадскай лірыкі Бядулі. Селянін амаль заўсёды прадстаўлены як ахвяра пануючых адносін. Яго незадаволенасць жыццём не мае характару свядомага пратэсту. Герой не ведае, хто вінаваты ў яго бядзе.

*Аб усім аб гэтым*
*Думаў разоў сто.*
*Хто тут вінаваты?*
*Вінаваты хто?*

— так пытае герой верша „Хоць ты разарвіся". Відаць з гэтага, што Бядуля пакуль што не робіць кроку наперад у параўнанні з ідэйнай вымовай паэзіі Багушэвіча, застаючыся ў яе палоне.

У тоне бязвыхаднага наракання (у даным выпадку на засуху) напісаны таксама верш „Спякота". Выступаючыя ў творы сялянскія героі прадвяшчаюць голад і марацць аб дажджы, які мог бы выратаваць спаленыя палі. Аб'ектам скаргі з'яўляюцца тут грамадскія адносіны, не сістэма, а прыродная анамалія.

Больш выразна класавы характар мае верш „Заліў быдлячы лой валоўі твае грудзі". У папярэдніх вершах Бядуля прамаўляў ад імя сялян. Стараўся атоесаміцца з сялянскімі патрэбамі і пастулатамі. У гэтым вершы, хаця і прамаўляе ад імя ўласнага „я", то ўсё ж такі не маем сумненняў, што выступае ад імя ўсіх гаротных і пакрыўджаных, ад імя ўсёй працоўнай Беларусі. У творы паэт востра атакуе чалавека, які жыве коштам іншых. Чалавека, дабрабыт і сытасць якога пасуцца на нястачах і голадзе прыгнечаных. Бядуля не называе ні прафесію, ні класавую прыналежнасць свайго героя. Аднак не сумняваемся, што маем дачыненне з буржуа, абшарнікам, чыноўнікам ці нейкім іншым дарабкевічам, для якога сытасць стала рэлігіяй, богам. Асуджэнне такога тыпу людзей мае ў вершы характар татальнай нянавісці. Паэт даказвае, што герой „без сэрца, без вачэй", што нічога ён не бачыць і не адчувае, што ён сляпы і глухі на патрэбы іншых. Паводле пісьменніка, этычныя і маральныя вартасці такіх людзей тыя ж самыя, што і самых прымітыўных жывёл. Верш мае характар абвінавачання і прыгавору.

*Паганіш ты сабой абшар зямлі і неба,*
*Як дзікі, люты звер, калечыш*
*ты жыццё,*
*У жвір-пясок такіх аддаць магіле*
*трэба,*
*З сонечнай зямлі спіхнуўшы*
***ў забыццё.***

Найвастрэйшым, мабыць, ва ўсёй дарэвалюцыйнай творчасці Бядулі і адным з найбольш радыкальных ва ўсёй нашаніўскай літаратуры творам з'яўляецца верш „Пан". Уся яго істота ў сацыяльным пратэсце. Аднак, **беручы пад** увагу нацыянальную прыналежнасць панства на Беларусі, трэба бачыць у творы і яго нацыянальную накіраванасць. З увагі на выключную важнасць верша прывядзем яго ў цэласці.

*Чым за адным сталом засесці*
*з панам есці,*
*Дык лепш павесь замок на губы.*
*Фальшывы панскі хлеб не будзе*
*ў горла лезці.*
*Бы жарствяком, паломіш зубы.*
*Замест віна твой коўш напоўніць*
*панскай кпінай,*
*Як скажа „еш!" дык знай: „давіся"!*
*Ён „братам" назаве, падумае:*
*„дубіна!"*
*Не шчыры ён. Ты сцеражыся!*
*Абдыме ён цябе. Падумае:*
*„смярдзючы".*
*У словах — мёд, нутро вужакі.*
*І купіць задарма ён карак твой*
*балючы.*
*Удвойчы станеш небаракай.*
*Не вер, не вер яму — і не прасі*
*падмогі,*
*Бо хлусіць ён — не вер ніколі!*
*Да сонца, да святла загарадзіў дарогу,*
*Ты пана бі і вырві волю!*

Верш гэты мае характар пратэсту і праграмы. Такія рысы былі чымсці новым ва ўсёй нашаніўскай літаратуры.

## URSZULA SIPIŃSKA



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвала**
Ева Красоўская з Беластока.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Астроне, што мог бы абазначаць мой дзіўны сон? Сніцца мне, быццам я збіраюся ісці ў касцёл. Але ж трэба дзеля гэтага падрыхтаваць чаравікі. І вось бяру я мужчынскія (чаму, не ведаю) бацінкі і пачынаю прыбіваць драўлянымі цвікамі падмёткі. Пад кожны цвік чамусьці падкладваю кавалачак ваты. І так амаль ужо прыбіла я падмёткі, засталося ўбіць толькі адзін-адзіны цвік. Тады я іду ў шавецкую майстэрню і прашу, каб мне адрамантаваў бацінкі Казік (і назвала яго прозвішча). А мне кажуць, што ён жа тут ужо не працуе, а працуе разам са мной (так ёсць у сапраўднасці). Ну, і так скончыўся мой сон. Праўда, дзіўны?

Ёля з Беластока

**Ёля з Беластока!** Агульна: тое, што ты збіралася ісці ў касцёл, абазначае нейкі смутак. Ты рамантавала сабе бацінкі — значыць, чакае цябе нечаканае падарожжа. З тым, што ў падарожжы гэтым сустрэне цябе нейкая горыч і крыўда (ты ж прыбівала падмёткі цвікамі). Тое, што падарожжа гэта не прынясе табе ніякай карысці, пацвярджае і тая вата, якую ты падкладала пад кожны цвік. Глядзі, ці не будзе звязана гэта падарожжа з нейкай сямейнай трагедыяй.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мне 19 год і вучуся я ў апошнім класе ліцэя. І вось праблема: не ведаю, што будзе са мной пасля заканчэння школы. Жывем мы на вёсцы, непадалёку ад Беластока. У мяне ёсць дзве сястры, абедзве ўжо замужнія. Адна выйшла замуж у горад, а другая прыняла мужа да сябе на гаспадарку. Гаспадарка ў нас добрая, механізаваная, жывуць багата. Мяне, аднак, гаспадарка ніколі не цікавіла, маёй марай ад дзяцінства было жыць і працаваць у горадзе. І ніхто ніколі не пярэчыў, каб я не ішла ў горад. Але нядаўна спаткала маю маму жанчына з суседняй вёскі і сказала, што яе сын хацеў бы са мной ажаніцца. Ён у бацькоў адзін, а гаспадарка на ўсю ваколіцу. Мая мама пасля таго і ўчапілася да мяне. Гатова ўжо і замуж аддаць. Кажа: на ніякай рабоце ў горадзе ты так жыць не будзеш. А я не толькі гаспадаркі не люблю, а яшчэ і гэты хлопец мне зусім не падабаецца. Як жа мне адчапіцца ад гэтай бяды? Можа ты, Сэрцайка, у адказе растлумачыш маёй маме, што мінулі ўжо тыя гады, калі бацькі аддавалі дочак замуж, нягледзячы на тое, ці падабаецца ёй хлопец, а толькі каб багаты быў.

Бася

Бася! Слушна кажаш — мужа дзяўчына павінна выбраць сама, кіруючыся перш за ўсё пачуццямі да яго. А багацце — набытая рэч. Гэта праўда, што цяпер добрыя гаспадары жывуць вельмі багата на вёсках, але і ў горадзе перад моладдзю дзверы шырока расчынены і багацце іхняе ў іхніх руках.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ад няшчаснага выпадку загінуў А. Яго жонка М. атрымоўвае за мужа пенсію. Яна хоча выйсці другі раз замуж. Ці страціць яна пасля выхаду замуж пенсію?

АДКАЗ: У асноўным закон аб усеагульным забеспячэнні пенсіянераў ад 23 студзеня 1968 года прадбачыць, што мужу або жонцы, якія атрымоўваюць сямейную пенсію, перастаюць яе выплачваць, калі возьмуць яны новы шлюб, на час існавання гэтага шлюбу. Гэта значыць, што калі б новы муж М. памёр або яна ўзяла з ім развод, пенсію ізноў выплачвалі б.

Выплачванне пенсіі не спыніцца, калі б М. выйшла замуж таксама за пенсіянера і калі б адначасова з гэтым не было іншых асоб, якія маюць права на сямейную пенсію за А.

## Ці ведаеце, што...

...у Польшчы пчалярствам займаецца каля 400 тысяч чалавек.

...у Беластоцкім ваяводстве спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў (СКРы) гаспадараць ужо на 25000 гектарах ПФЗ.

...на Беласточчыне 250 гарцэрак і гарцэраў займаецца ў клубах юных спартсменаў. Яны актыўна вывучаюць міжнародную мову эсперанта і часта перапісваюцца з замежнымі равеснікамі.

...беластоцкая ваяводская арганізацыя ЗСМП у 1430 гуртках аб'ядноўвае 38 120 членаў, у тым ліку больш 50% з вясковага асяроддзя.

...на Беласточчыне дзейнічае 200 клубаў „Рух", 100 клубаў селяніна, 84 святліцы, 180 бібліятэк і 1020 бібліятэчных пунктаў.

**(ця)**

## Этнаграфічная абеніца



*Вёска Мора.* *Фота Я. Целушэцкага*

## Куток практычных ведаў

**ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ**

## З СЫРА

### САЛАТЫ

Паўкілаграма жоўтага сыра дробна нарэзаць. Дадаць лыжку кмену і маянезу. Усё добра размяшаць. У сезоне замест кмену можна дадаць пучок дробна нарэзанай радыскі. Для гэтай салаты найлепш падыходзіць **эментальскі** сыр.

Калі ёсць у вас якраз **эдамскі** сыр або **„гоўда"**, то, нарэзаўшы яго дробнай косткай, трэба дадаць столькі ж сцертых на бурачанай тарцы яблыкаў і селераў. Смак салаты яшчэ палепшаць валошскія арэхі. Салату размешваем з маянезам.

З **тыльжыцкага** сыра таксама выходзіць вельмі смачная салата. Да 30 дэкаў дробна нарэзанага ці сцертага на бурачанай тарцы сыра дадаем такую самую колькасць нарэзанай варанай бульбы і фасолі, дробна нарэзаную цыбулю, прыправы і мяшаем з маянезам. Найлепшы смак мае салата тады, калі яе падрыхтоўваем на некалькі гадзін перад падачай.

Вельмі смачная таксама салата з тыльжыцкага сыра, нарэзанага скрылёчкамі, з дробна нарэзанай грушай. На 30 дэкаў сыра бярэм адну вялікую грушу (цяпер можа быць з кампоту).

Талеркі з салатамі ўпрыгожваем зелянінай, яечкамі, папрыкай, агурком, каб на стале яны прыгожа выглядалі.

### БУТЭРБРОДЫ

Для бутэрбродаў можна выкарыстаць кожны гатунак сыра, нават белы і топлены. Прыгожа пакладзеныя на талерках, яны аздобяць кожны стол. Бутэрброды павінны быць маленькія, а для іх упрыгожвання можна выкарыстаць усё, што ёсць у даны момант у нашым халадзільніку ці каморы. Можна выкарыстаць фрукты, агуркі, памідоры, сардынкі, пячурыцы, а нават і марынаваную цыбулю.

### СЛІВЫ, ФАРШЫРАВАНЫЯ СЫРАМ

Сушаныя слівы намачыць. Калі намокнуць, выняць з іх костачкі і палажыць на тое месца кавалак сыра. Пасля гэтага слівы загарнуць у скрылёчак капчонай грудзінкі (бочку), і запячы ў духоўцы на працягу 10 мінут. Гэтая страва вельмі арыгінальная і непаўторная ў смаку. Даводзіцца сустракаць яе, аднак, на многіх сталах.

**Гаспадыня**

**А. ВОІНАЎ**



## КАМЕНДАНЦКАЯ ГАДЗІНА

**ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ**

Не дакрануўшыся да абеду, Лена павалілася на ложак і адразу заснула. Але сон яе быў неспакойны. Часам яна расплюшчвала сонныя вочы, а потым паварочвалася на другі бок і зноў засынала.

Прачнулася на досвітку і раптам адчула, што на душы ў яе зусім спакойна. Надзя ляжала побач, яна таксама прачнулася і ўважліва ўглядалася ў твар Лены.

— Што ж гэта за хлопец? — спытала яна, быццам размова іх не спынялася.

— Здаецца, нядрэнны. І вельмі адзінокі.

— Ты ў ім упэўнена?

— Яго трэба праверыць. Не ведаю толькі як, але праверыць трэба абавязкова.

Надзя зморшчыла лоб. Яна заўсёды моршчыла лоб, калі напружана думала, і таму за апошнія месяцы на яе лбе прарэзаліся тонкія маршчыны.

— А што калі папрасіць яго прынесці мужчынскі касцюм? — сказала яна.

— Мужчынскі касцюм? Навошта ён нам?

— Гэта прычына! Скажы яму, што ў нас ёсць чалавек, якому трэба пераапрануцца. Калі прынясе, то стане як бы нашым саўдзельнікам...

— Але ж гэта для яго рызыка?

— Якая ж ты, Ленка, нездагадлівая! — прыўзнялася Надзя. — Няхай рызыкне! Тады адразу высветліцца, ці хоча ён працаваць з намі.

Так, здаецца, Надзька прыдумала нядрэнна.

На наступную раніцу Лена зноў апынулася ў адной брыгадзе з Мішам. Цяпер яе ўсё часцей пасылалі на прычалы — мужчын не хапала. У вольныя мінуты яны размаўлялі з Мішам аб усялякіх дробязях, але Лена адчувала, што непасрэднасць у адносінах знікла. Ён часта змаўкаў, адыходзіў убок і думаў аб нечым сваім.

— Пасядзі са мной, Міша! — сказала Лена, выбраўшы мінуту, калі ля іх нікога не было.

Паблізу крычалі санітары, якія грузілі на транспарт раненых, гулі машыны: вось ужо два тыдні караблі вывозілі з порта тысячы пакалечаных людзей.

— Як ты думаеш, адкуль іх вязуць? — спытала Лена, паказаўшы ў бок трапа, па якому паволі ўзбіраліся лёгкапараненыя: адны перасоўваліся на самаробных мыліцах, другія ішлі самі, несучы перад сабой белыя, загіпсаваныя, падобныя на абломкі помнікаў, перабітыя рукі.

— Нашы, напэўна, наступаюць, — сказаў Міша, робячы націск на слове „нашы", быццам быў упэўнены, што Лена яго аднадумец.

— Вось што, Міша, — сказала Лена. — Калі хочаш, я магу пазнаёміць цябе з сапраўднымі людзьмі.

Ён не варухнуўся.

— Што для гэтага патрэбна? — спытаў ён.

— Прыходзь да мяне дамоў а шостай гадзіне вечара.

— Сёння? — перапытаў ён насцярожана.

— Так, сёння роўна а шостай. Я цябе з тым-сім пазнаёмлю. І яшчэ, — дадала яна быццам бы між іншым, — дастань, калі ласка, мужчынскі касцюм.

— Касцюм?.. Навошта ён табе?

Яна разгублена ўсміхнулася.

Не, майстэрства прыкідвацца не для яе. Але ён ужо здаўся. У яе патрабаванні заключалася тайна, і ён не павінен, не мае права задаваць ёй лішнія пытанні.

— А які размер? — спытаў ён.

— Які дастанеш. Калі будзе вялікі, давядзецца перашыць...

Ён запомніў яе адрас і цвёрда пабяцаў прыйсці без спазнення.

Калі Лена прыйшла дамоў, Надзя толькі закончыла чарговы сеанс сувязі са штабам.

— Нам далі новае заданне: удакладніць, як размяшчаюцца войскі ў горадзе і ваколіцах і што збіраюцца рабіць немцы ў бліжэйшы час. Патрабуюць, каб мы больш выкарыстоўвалі знаёмствы. Па твайму твару бачу, што яны ў нас наладжваюцца.

Лена расказала Надзі пра сваю размову з Мішам, і яны абедзве пачалі рыхтавацца да сустрэчы з госцем.

Яны чакалі Мішу да каменданцкай гадзіны.

— Падмануў ён цябе, — сказала Надзя. — Нікчэмная душа. А гаварыла — надзейны хлопец.

— Я не гаварыла — надзейны, я сказала — нядрэнны!

— Ну, у нашым разуменні гэта адно і тое ж. Час табе ўжо лепш разбірацца ў людзях...

Лена маўчала. Другая памылка за кароткі час. Надзя мае рацыю, нельга верыць кожнаму, хто раскрывае перад табой сваю душу. На паверку ўсе драматычныя гісторыі аказваюцца наскрозь фальшывымі. Наступнай раніцай яны з Мішам выпадкова сустрэліся ля ўваходу ў порт. Лена заўважыла, што за гэтыя суткі ён неяк схуднеў.

Калі, прад'явіўшы вартавому пропускі, яны разам прайшлі на тэрыторыю порта, Міша вінавата спытаў:

— Злуешся?

— Не, — адказала Лена як мага спакайней, — кожны робіць як яму лепш!

— Ты ж мяне чакала?

— Чакала, але нядоўга. Была ўпэўнена, што не прыйдзеш.

Ён вінавата паглядзеў на яе.

— Ведаеш, я проста не дастаў касцюм.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## За апошнія гады

Казалі людзі, што застой наступіць у грамадска-культурным жыцці былых павятовых гарадкоў. Аж сорамна цяпер прызнацца, што і я так думаў. Ужо два гады прайшло з таго часу, як была рэарганізавана адміністрацыя, і цяпер аб'ектыўна можам сказаць, як яно ёсць. Лепш ці горш?

Адкажу на прыкладзе Гайнаўкі, дзе жыву. Дынамізавалася прамысловая прадукцыя горада. У параўнанні з 1973 годам яна ўзрасла на 500 мільёнаў зл. А ўсё гэта ў выніку лепшай арганізацыі працы і росту прадукцыйнасці. Палепшыліся сацыяльна-бытавыя ўмовы рабочых. Два найбольшыя прадпрыемствы горада — Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці і Гайнаўскае прадпрыемства сухой дыстыляцыі драўніны маюць уласныя сацыяльныя аб'екты, нават уласныя сталовыя. Меншыя прадпрыемствы бяруць абеды сваім работнікам са сталовых ВСС.

Вялікія дасягненні назіраюцца ў жыллёвым будаўніцтве. Жыць у новыя кватэры перайшло 777 сем'яў, з таго 565 у блокі і 212 — ва ўласныя дамы. Добрыя вынікі назіраем і ў пабудове новых дарог. Былі пракладзены новыя вуліцы: Парковая, Простая, Грунвальдская, Врублеўскага, Цэльная, Дзельніцовая, Рэя, Дзяржынскага. Электрыфікавана 10 новых вуліц. Пракладзены водаправоды і каналізацыя на новых вуліцах. Грамадскім чынам паўстаў гарадскі парк.

Гайнаўскае прадпрыемства сухой дыстыляцыі драўніны пабудавала прадшколле для 120 дзяцей. Такое самае будуе Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці. Будуецца яслі на 100 месц на пасёлку Гайнаўка-II. Такога развіцця горад яшчэ не перажываў. Гэтая мая няпоўная ацэнка дасягненняў горада і яго жыхароў дазваляе верыць, што наступныя гады будуць яшчэ лепшыя.

**Э. Вайсковіч**

## Адзін з многіх



Уладзіміра Бобера з вёскі Кашалі гміны Орля ведаюць многія. Малады хлапец, а, як кажуць, майстар на ўсе рукі. Ён умее пабудаваць драўляны і мураваны дом, зробіць сталярку, правядзе электрычнасць, разумее ў гідраўліцы, добра вядзе з бацькамі гаспадарку. Гаспадарка ў іх невялікая — усяго 4 га агульнай плошчы. Маюць пару коней, дзве каровы, некалькі свіней, пакуль што яшчэ не ўвялі спецыялізацыю. На панадворку чысціня і парадак. Дом драўляны, ашаляваны, памаляваны, агародка таксама. Відаць тут вялікая праца і дбайнасць. Працавалі Боберы нямала.

Бацькі Уладзіміра за сваё жыццё будаваліся аж тры разы. Жыццё было нялёгкім. У 1915 годзе былі эвакуіраваны ў Расію. Апынуліся аж у Екацярынаслаўскай губерні. Туга за радзімай пацягнула іх у родныя Кашалі. Прыязджаюць у 1920 годзе, а тут ні кала, ні двара. Узяўся бацька за пабудову, за гаспадарку, стаў на ногі, аж тут і другая вайна, і зноў усё спалілася дашчэнту. Дзеці дробныя, даваліся самому зноў вазіць калоды, трачаваць і будавацца. Першыя гады пасля вайны жылі ў кухаханьцы, зробленай у хляве. Нарэшце паставілі хату, клуню, хлеў і стаў падаўнейшаму гаспадарыць. Дзеці падраслі, пайшлі ў школу, жыццё пакацілася зноў уперад.

Валодзя ад дзяцінства любіў стругаць, спярша ножыкам рабіў самалёцікі, пісталеты, потым пачаў збіраць сталярскія прылады. Сям'я Бобераў пачала марыць аб выгадным доме, аб лепшым пляцы, шырэйшым і сухім. Рашылі перанесці свае будынкі на другую сялібу. Тут ужо было лягчэй, не трэба было наймаць майстра. Уладзімір пры дапамозе бацькоў пабудаваў дом і ўсе будынкі, парабіў сталярку, сам паставіў кафлёвыя печкі і ўсё іншае зрабіў, што было патрэбнае. Бацькі прывілі яму, як і траім сёстрам яго, любоў да працы, да гаспадаркі. Сёстры Валодзі замужнія, таксама за гаспадарамі, жывуць заможна.

**М. Л.**

### РАЗМОВА ПРА ПАЖАРЫ, КАБ ІХ НЕ БЫЛО

З якой любасцю глядзяць малышы на стражакоў, калі тыя ў святочных вопратках выступаюць на розных урачыстасцях.

Нядобрая і страшная рэч — пажары, ды добра, што ёсць людзі, якія ўмеюць змагацца з імі. Як выглядае супрацьпажарная акцыя на гайнаўскай зямлі? З такім пытаннем я звярнуўся да каменданта раённай пажарнай аховы ў Гайнаўцы — капітана Яўгенія Пятровіча, які кіруе гайнаўскім пажарніцтвам ад 1972 года.

— Навіны нядобрыя. У 1977 годзе на тэрыторыі былога Гайнаўскага павету пажары прынеслі 1 млн. 792 тыс. зл. затрат. Прычыны пажараў розныя: неасцярожнасць з агнём, гульня дзяцей запалкамі, дрэнная электрычная праводка, перуны, іскры ад цягніка, трактара.

Да барацьбы з агнём на Гайнаўшчыне прыступіла за год 1800 членаў дабраахвотнай пажарнай стражы, якія згуртаваны ў 67 баявых групах у больших вёсках.

Добрыя вынікі ў навучанні, гатоўнасці і барацьбе з пажарамі маюць каманды ў Кляшчэлях, Чыжах, Белавежы, Навакорніне, Махнатым, Арэшкаве і Нарве.

Не ўсе, аднак, каманды маюць добрыя ўмовы для працы. Не хапае раміз. У мінулым годзе пачалі будаваць рамізу ў Кленіках і Тафілаўцах. У гэтым годзе пачнецца ў Семяноўцы і Чаромсе. Усюды ў пабудове раміз вельмі вялікі ўдзел бяруць пажарнікі і насельніцтва.

Асаблівую падзяку хачу выказаць пажарнікам: Івану Герасімюку з Дубіч Царкоўных, Мікалаю і Кастусю Леанкевічам з Кляшчэляў, Івану Бушку з Белавежы, Івану Данілеўскаму з Навакорніна, Івану Ахрымюку з Чыжоў, Андрэю Парынюку з Махнатага, Пятру Бугвіну з Арэшкава, Івану Петручуку з Палічнай.

**Э. Вайсковіч**

## БЕСПАРАДАК У ДАКУМЕНТАХ

У студзені гэтага года атрымаў я з гміны наказ на грашовыя абавязацельствы і страхоўку. Калі параўнаў яго з мінулагоднім, заўважыў, што налічылі мне страхоўкі на 8 злотых больш. „Прыбавілі, дык прыбавілі, — думаю сабе, — відаць, так трэба". Аднак усё паблыталася ў маёй галаве, калі ў лютым прыслалі мне з гайнаўскага ПЗУ дакумент, у якім гаворыцца (пункт 3 і 4): „Супольная складчына страхавання будынкаў і рухомай маёмасці складае 274 зл. Дакумент гэты з'яўляецца асновай для вызначэння кампенсацыі і памеру складчын ад 12.XI.77 г. да часу адмены яго іншым дакументам".

Дакумент быў напісаны 12.XI.77 года і падпісаны дырэктарам. Але цяпер я не разумею, чаму ад пачатку 1977 года на плацёжным наказе напісалі мне складчыну 274 зл., калі ў дакуменце, які атрымаў у лютым 1978 года, выразна гаворыцца, што гэтая складчына абавязвае ад 12.XI.77 года. І таксама не разумею, чаму напісалі мне 282 зл., а не як у дакуменце — 274 зл.

У Чаромхаўскай гміне працаўнік сказаў мне, што карыстаецца ён толькі картатэкай, якую запаўняе ПЗУ. Адкуль жа тады столькі няяснасці ў дакументах ПЗУ? Заблыталіся гайнаўскія прадстаўнікі інспектарата ПЗУ. Кампетэнтнага адказу чакаю ад ваяводскага аддзялення ПЗУ.

**Ул. Сідарук**

### НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

На дарозе паміж вёскамі Гацькі і Храбалы ў Бельскай гміне шафёр з Дубіч Асочных, едучы „Старам", не быў асцярожны на слізкай дарозе, з'ехаў у роў і ўдарыў у дрэва. На шчасце, ніхто з людзей не быў паранены.

Падобны выпадак здарыўся ў Беластоку на скрыжаванні вуліц Сянкевіча і Варшаўскай. Аўтобус „8", паварочваючы ўправа, пры зялёным святле на слізкай вуліцы наехаў на пераходзе на жанчыну і параніў яе.

Таксама ў Беластоку на вуліцы Маніфеста Ліпцовага шафёр наехаў на двухгадовага хлопчыка, які быў з бацькам. На шчасце, толькі лёгка яго параніў.

А каля Лап здарыўся трагічны выпадак. „Вартбург", едучы неасцярожна слізкай дарогай, ударыў у прыдарожнае дрэва, у выніку чаго дзве асобы загінулі на месцы.

### ГАВАРЫЦЬ НЕ ПОЗНА

Жыхары вёскі Тапаркі, Кляшчэлеўскай гміны, скардзяцца на гмінныя ўлады, што некаторыя важныя справы не хочуць заўважаць і цікавіцца імі. На дарозе, якая вядзе ў суседнюю вёску Сакі, цэлую зіму на адным адрэзку (каля 70 метраў даўжыні) нельга было праехаць ніякай аўтамашынай. Тут так было завеяна снегам, што цяжка сказаць. Хуткая дапамога сюды ні разу не даехала і хворага фурманкай давозілі да Сакоў. Таксама з дастаўкай малака, якога сяляне многа прадаюць дзяржаве.

Тым больш балюча было перанесці людзям тое, што Сакі наведаў трактар-спіхачка снегу, які нічога не зрабіў, а толькі аднаму з вёскі прачысціў дарогу пад самую хату. Жыхары Тапаркоў асабіста мяне прасілі, каб усё гэта я напісаў у „Ніву", а на маю заўвагу, што пакуль рэдакцыя надрукуе аб гэтым, то снегу і следу не застанецца, дык людзі адказалі, што балота будзе ў гэтым месцы і артыкул будзе важны, бо і па балоце ніхто не праедзе. Дык і праўда!

**М. Панфілюк**

### ВІТАЎСКІЯ ЖАНЧЫНЫ

У вёсцы Вітава, Дубіцкай гміны, добра дзейнічае гурток вясковых гаспадынь. Налічвае ён 30 жанчын. Найменшае мерапрыемства ў вёсцы без іх не абыдзецца. Вітаўскія жанчыны выступаюць у розных песенных конкурсах. Арганізаваўся тут калектыў, які нядаўна выступаў з беларускай песняй у вёсцы Грабавец, Дубічы Царкоўныя і ў Беластоку.

Вітаўскі гурток гаспадынь узначальвае Валянціна Назарук — добры арганізатар і ўзорная гаспадыня.

**Ул. Панфілюк**

## Кіно з дрэннай апаратурай

У белавежскае кіно „Зубр" хаджу я вельмі рэдка. У апошнія два гады быў усяго можа два разы. Не думайце толькі, што раблю гэта са скупасці ці антыпатыі да кінематаграфіі. Зусім не!

Проста ў белавежскім кіно нельга глядзець фільм, каб не нервавацца. Бо як жа глядзець на экран, калі на ім амаль няма паловы вобразу. На дадатак з гучнагаварыцеля, замест дыялагу, плыве амаль адно балбатанне. Так дэманструюцца фільмы ў Белавежы больш як год. Хопіць! Пара абмяняць або направіць папсаваную апаратуру, і Акруговае прадпрыемства распаўсюджвання фільмаў у Беластоку як мага хутчэй павінна гэтым заняцца.

**П. Байко**

## Рамонт святліцы ў Дубінах

Святліца ў вёсцы Дубіны была вельмі брыдкая. Тынк паадпадаў, шыбы ў вокнах і дзвярах былі пабітыя. Так было, калі была святліца і служыла яна амаль адным танцам не заўсёды цвярозай моладзі.

Цяпер святліцу перамянілі на клуб і адрамантавалі. Гэтым заняўся жыхар вёскі Дубіны Уладзіслаў Койла. Пад яго наглядам за восень і зіму перакрылі, атынкавалі і памалявалі будынак. Сталі новы, вельмі прыгожы. Вокны вельмі хораша прыбраныя, як у добрай гаспадыні. А таксама ў сярэдзіне прытульна. Вялікая зала цяпер кожны вечар поўная. Клубам займаецца Вяслава Койла.

**Мар'я**

### ПА ЦЭГЛУ Ў „СІЛІКАТЫ"

ВСГР у Нарве распачаў шырокую разбудову свайго прадпрыемства. Будуецца ферма авечак у Трасцянцы, рыхтуюць пабудову птушкакамбіната ў Нарве, будуюцца ў Васьках і Макаўцы.

Цэглу ВСГР купляе ў „Сілікатах" у Беластоку. Трактарысты нараўскага ВСГР наракаюць, што задоўга вымушаны стаяць у чарзе па цэглу — па шэсць і больш гадзін. Прыдалася б лепшая арганізацыя выдавання цэглы.

**М. Лук'янюк**

**Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы"**

## Пад рэзвагу аддзелу ВСС у Гайнаўцы

Раён „Пашкі" ў Гайнаўцы — адзін з большых у горадзе. Але тут адна толькі спажывецкая крама — на вуліцы Бельскай. Крама працуе ад 7 да 17.30 гадзіны, а ў нядзелі і святы ўвогуле закрыта. Такія гадзіны працы крамы ўвогуле нявыгадныя большасці людзей гэтага раёна, якія а 7 гадзіне ўжо распачынаюць працу.

Каб стварыць магчымасці лепшага і выгаднейшага карыстання з крамы жыхарам пасёлка „Пашкі", трэба адкрываць краму ад 6-ай гадзіны раніцы, а таксама адкрываць яе на некалькі ранніх гадзін у нядзелі і святы. Лічым, што дырэкцыя аддзела ВСС у Гайнаўцы зверне ўвагу на слушныя пажаданні жыхароў пасёлка. Гэта важна!

Трэба таксама падумаць, каб пашырыць сетку гандлёвых пунктаў у раёне „Пашкі".

**Піс**

## ТАК РАШАЮЦЦА ПРАБЛЕМЫ

У кожнай мясцовасці ёсць шмат спраў, якія патрабуюць усебаковага разгледжання іх мясцовымі ўладамі. Напрыклад, у Чаромсе на вуліцы 1 Мая на адрэзку 300 метраў трэба правесці вулічнае асвятленне. Заявіў аб гэтым член гміннай камісіі Ольгерд Лязніцкі. Радная Вера Бахарэвіч запрапанавала, каб часцей чысціць ад гразі і снегу вуліцы пасёлка.

Адносна вулічнага асвятлення гмінныя ўлады заявілі, што зараз гэта зрабіць немагчыма, але яшчэ ў гэтым годзе ў час рамонту электрычнай лініі ў пасёлку асвятленне будзе праведзена. У другой справе гміна паведаміла раднай Веры Бахарэвіч, што чысціць вуліцы абавязаны самі сяляне, кожны насупраць сваёй сялібы. Такую пастанову выдае начальнік гміны. Гмінныя ўлады, аднак, стараюцца ў будучыні мець уласныя прылады для чышчэння снегу. Аб гэтым начальнік гміны гаварыў з кіраўніком сельскагаспадарчага кааператыва ў Зубачах, які абяцаў даць на зіму гміне свой трактар. Гміна толькі дакупіць супрацьснежны плуг.

**(ус)**

### АДГАЛОСКІ

## НЕ ЗУСІМ ТАК

У 11 нумары „Нівы" быў змешчаны артыкул Восені „У бібліятэцы". Зацікавіла мяне гэтая справа, бо я ведаю, што пад наглядам грэдалёўскай бібліятэкі знаходзяцца бібліятэчныя пункты, напрыклад, у Тапчыкалах.

Дзейнасць гэтай малой бібліятэкі ў Тапчыкалах не зусім добрая. Кніжкі не зменены ўжо амаль дзесяць гадоў. Многа прапала. А як выглядаюць гэтыя кніжкі? Парваныя, старыя. Хто захацеў бы прачытаць добрую кніжку, павінен сам яе купіць, бо на бібліятэку няма што спадзявацца.

**Зорма**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ЯК БУДЗЕ ДАЛЕЙ?", „Ніва" № 6/1145 ад 5 лютага 1978 года.**

**Адказвае: ZESPÓŁ OPIEKI ZDROWOTNEJ W BIELSKU PODLASKIM.**

W nawiązaniu do notatki prasowej z 6/1145 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 5 II 1978 r. w sprawie zwiększenia godzin pracy lekarza dermatologa w Bielsku Podlaskim — Dyrekcja ZOZ uprzejmie informuje, że od dnia 14 marca 1978 roku w Poradni Dermatologicznej w Bielsku Podlaskim został zatrudniony drugi lekarz dermatolog.

**Dyrektor ZOZ**
**lek. med. A. Modzelewski**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

